УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
П39

**Плотка, А.**
П39 Байсан : вершы / Алесь Плотка. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 96 с.
ISBN 978-985-7119-27-1.

Алесь Плотка — аўтар. Нарадзіўся ў Чарнобыльскай зоне за саветамі.
Байсан — альтэр-эга. Увасабленне беларусаў свету версіі 2.0.
Вершніца — муза. Застаецца на вокладках кніг пасля смерці аўтара.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-27-1**



## Толькі небам

у жыцці гэтым любіў дзве рэчы:
віскі з колай і віскі без,
водар каляднае свечкі
і ў душу каб ніхто не лез

з-баўнці ці нішчымную каву
і людзей. з іх брахнёю і байкамі.
на працы глядзець TUT-Баву
і застацца сабой…
толькі небам залайканым

*2012, м.н.с.к.*

## Муза

ты ніхто
і я ніхто
так камфортна
быць на роўных

ты ніхто
і я ніхто
хопіць песень
памяркоўных

мая муза п’е штоночы
твар у твар вочы ў вочы
так прыемна быць на роўных
...ты ніхто і я ніхто

ты ніхто
і я ніхто
жнівень, ранак
водар віскі

ты ніхто
і я ніхто
спорт зусім
не алімпійскі

след бензіну на асфальце
дайце волі, курвы, дайце!
так прыемна быць на роўных
...ты ніхто і я ніхто

ты ніхто
і я ніхто
вецер — праўда
сутарэнняў



ты ніхто
і я ніхто
мроіш мір
збірай каменне

...мая муза п’е штоночы
...твар у твар вочы ў вочы
...мая муза п’е штоночы
...ты ніхто і я ніхто....

*11 чэрвеня 2010 г. —*
*кастрычнік 2013 г., Гомель, Ратамка, м.н.с.к.*

## Хто ты такая

хто ты такая, хто ты такая
снежань, майдан, грукат трамвая
рэжа наш свет  на тры кавалкі:

інь        янь       цы
чалавек,  цыгарэта,   запалкі

некаму зараз колюць магнезію
нехта думае, што піша паэзію
тры трыццаць — самы час філасофіі
нехта ідзе дахаты, нехта ідзе па морфію

твой Генерал Ноч адпусціў грахі Алістэру Кроўлі
на апошнім пагранпасце ўнутранае Манголіі

«хто ты такая хто ты такая»
гэта ўсё бяссонніца клятая,
а так ён з табой засынае

так, у  гэтым свеце ўсё не так парцалянава
і жыццё пражыць — не залайкаць Кабанава.
апошняя фраза патыхае месіяй
ведаю. каюся. але перад сабой бяссільны

3.50   і ты дыхаеш побач.
і пытанні знікаюць, як знікаюць нявіннасці
у самым цэнтры грэбанай сусветнай стабільнасці
ты — найпрыгажэйшая з усіх акалічнасцяў

*3:58. 21 снежня 2013 г., м.н.с.к.*



## паравіны

было лета,
чэрвень ці ліпень.
я сказаў, што думаю,
ты праліла кіпень.

раніцай мы спрачаліся:
тралейбус ці маршрутка,
цяпер — разуменне і згода,
едзем на хуткай.

потым была восень,
кастрычнік ці лістапад;
у скрушнай самоце чакалі мы
кожны сваіх каляд

ты піла недзе гарбату,
я — у кавярні недарагой.
камусьці — апёкам памяць,
камусьці — няма і таго…

*1 лістапада 2013 г.*

## Paranoja.by

лінія,
высакавольтная
уздоўж ідзе,
моўчкі еду я

лінія,
мой цягнік нясе
хто я ёсць?
і ці гэта я?

лінія
па далонях прэч
кожны дзень
маю рацыю

лінія
метамфетамін,
модны дзэн
канспірацыя

лінія
гарызонтам ёсць
твой канал
тэлевізія

лінія
і вакол вачэй
марны час
межы лініі

лінія
ты заўсёды сам
кожны дзень
маеш рацыю



лінія
метамфетамін
модны дзэн
канспірацыя

*25 ліпеня 2008 г., Лунінец–Жыткавічы*

## Мята

аднасоладавы віскі моцна ўзяў мяне ў ціскі
камсамольскія дзве кіскі пудрацъ мне мазгі
я ў горадзе паснулым між баулам і мінулым
стаўся праўдай паспалітай — просты, як рэцэпт махіта

побач твар Хэмінгуэя, то смяецца, то нямее
з ім чатыры жонкі разам, звонкі смех, восем абцасаў
пакідаючы стыгматы — яны танчаць, я паддаты
па-над гэтым маскарадам — мята. Моцны водар мяты

## Удых — выдых

Выд-ы-х…
Ўдых!
Выдых…
Ўдых!

Я ціхутка закрыю вочы
І радком нявыданых кніг
Лягу тут.
              Назаўжды.
                              І моўчкі.

Выдых…
Ўдых!
Выдых…
Ўдых!

Неба — цэнзурай тым кнігам,
Бо пад небам што плач, што крык
Ад душы.
              Удых!
                    Выдых….

*26 чэрвеня 2010 г., Гомель*



## F5

Ну што, ты ўжо праглядзела
Усе фоткі ягонай новай?
Асабліва тыя, дзе добра бачна яе прыгожае цела
Асабліва тыя, дзе гарачых вуснаў юрлівая змова.

Галоўнае закан-спек-тавала?
Так сказаць, summary з дзесяці альбомаў
Чатырыста восемдзесят пяць здымкаў. Ні многа ні мала.
Дураў ведае — ты праглядзіш іх нанова.

Кожнай паліцы — свае кнігі
І кожнай кнізе (ясен-красен!) — свая паліца.
Ты будзеш пісаць і НЕ адпраўляць лісты. Для інтрыгі.
Якая цяпер у закладках душы тваёй мае з’явіцца.

І подпісам ліста недасланага
Тваё сэрца будзе шабоўтацца
Пакуль ты не скажаш — ну як я любіла гэтага уебана, га?
І папусціць. Як усіх папускае. Сістэма абновіцца.

І ты вершы напішаш цудоўныя
Не зважаючы, як шчыра дзеясловы рыфмуюцца
І апошнюю выдаліш фотку — Тую Самую
І верлібр за мастацтва прымеш.
                                                  Не выкідаць жа яго на вуліцу…

*8 сакавіка 2011 г., Гомель*

## Ірме — 1

Ведаеш, Ірма, жыццё — быццам мора:
Ёсць хвалі на ім, а ёсць пена.
І не адразу бачна — дзе дурань,
дзе геній.

І не адразу ўбачыш свайго караля,
і на душы
то пажар,
то залева.

Проста Жыві,
каб сказалі пасля, —
«Гэта была каралева!»

*23 красавіка, Ставорэн, Фрысланд, Галандыя*

## Ірме — 3

Жыццё такое рознае, Ірма,
Ёсць пэндзаль майстра, а ёсць просты аловак
І калі ты задушышся на канцэрце хэдлайнера,
Яго тэг, а не тваё імя

…трапіць у загаловак…

*26 жніўня 2014 г.*



## Ірме — 2
## (пра жыццё, каханне і цягнікі)

Ведаеш, Ірма, жыццё — як цягнік.
Адзін чалавек сеў у вагон і паехаў
А перон усё гудзеў, нібы ён серад іх
І адсутнасць яго не вартая смеху
У нас спрадвеку
Як пятак на рэйкі
Лупяць тэгі —
#Шайтан #Мудак #Недарэка

Купэ 37 — наша навука
Ты сядзіш і глядзіш аднекуль
Думаеш, хто гаспадар — ты ці мухі?
Ці «Савецкаму» зразумець Prosecco?
Суб'ект — аб'ект
Пост — камент
Перон — вагон
Хто з іх калека?

Да прыбыцця 30 хвілін
чужая бялізна смачней за Пасціс
Калі з раніцы п'еш — ты ўжо не адзін
Why don't you get out of his life please?
Mi Amor
Vanessa Paradis
Божа, калісь,
Хто ж з іх калека???

І фэйсбук пытае —
Who were you with?..

*24 красавіка, Ставорэн, Галандыя*

## Дзве

дзве самотных душы —
гэта я, гэта ты
я на поўную жыву,
толькі вось не напоўніцу
чаму пісана — тое здзейсніцца
і ўсмешкаю
стане цень віны

я ехаў у трамваі праз усе свае сны
стары зваў сесці побач, але я не сеў
каб убачыць працяг, і арэлі, і смех...
я на поўную жыву,
толькі што?

*15 красавіка 2014 г., м.н.с.к.*

## Trinity

як давядзецца музам саван вышыць
ні бог
ні сын
ні дух
а толькі

Challenge Concern Issue

*29 чэрвеня*



## Ці?

гэта зусім і не вершы,
я прэтэнзій ніякіх не маю
лепшы не той, хто першы,
лепшы той, хто маўчыць і знае

што калі душа пойдзе ў вандроўку
і нябёсы ёй скажуць: «Welcome!»,
стане едно пытанне толькі —
«Ці застаўся ты чалавекам?..»

## Людзі

Вага
Тваёй павагі
Дыміць на хвасце іголкі

Я не звяртаю ўвагі
Усе грэшныя мы
І толькі

*9 лютага 2012 г., м.н.с.к.*

## Масква. Балкон

Масква. Балкон.
І безлічныя гмахі
Ўрачыста палымнеюць над Масквой

Жыцця майго
Чатыры чарапахі —
На Захад клінам, Усходамі за мной.

*26 ліпеня 2010 г., Масква*

## Сонца

Сонца
Імкнецца
Спыніцца
   На міг

Сэрца
Заб'ецца
Адно
   На дваіх

*11 студзеня 2010 г., Фрыпарт, Багамы*



## Анёлы

Гублялі
Анёлы
Крылы

— Кахаю!
— Дашлі
На мыла

*30 кастрычніка 2010 г., Гомель*

## Памер

Ёсць гарады-працяжнік-героі
І людзі-дэфіс-так-сабе,
І думаеш снежнай парою:
Ці ж гэтак ён, важны, памер?

*17 снежня 2010 г., Гомель*

## Каляда

Даў Бог нам шанцаў,
Імя нам — еднасць,
Уніят паганцу —
Як брат на вечнасць!

*25 снежня 2010 г., Гомель*

## Новы год

Мой жах — мяжа
Мужык — мой жаль
Дажынкі — баль
Жыццё — шаша

Пад вэлюм — сталь
Прыйшоў амаль:
Пусты грааль
Каля крыжа…

Ты не блукай.
Пароль — душа

*31 снежня 2010 г., Гомель —*
*29 кастрычніка 2013 г., м.н.с.к.*

## Крыжы

выйдзеш з храма.
ўвойдзеш у фэйсбук.
меладрама?
ды не. проста круг

гаджэтова —
крыжова парука:
крыж націснеш
і выйдзеш з фэйсбука…

*2011*



## Нашто

Нашто нам трэці Рым, калі нам першы свеціць…
Абцасам залатым усё едно, што таптаць
І бот пацалаваць праз сем радкоў у газеце
Камусь нашмат смачней, чым так пацалаваць…

*15 жніўня 2010 г., Гомель*

## Люты

За вакном —
ампір,

У вакне —
вампір

П’е гарбату без цукру і колеру

У вакно глядзіць:
Там кіпучы вір

А ў вачах адно —

…жаль-туга па донару

*26 студзеня 2012 г., м.н.с.к.*

## Будзьма Разам?

Чужое золата заўжды блішчыць ярчэй,
Сваё ж за абразом схавана ў хаце.
Крычым мы зычна, гучна — «Будзьма, гэй!»,
Хоць Разам мы адно калі нас гвалцяць...

*7 снежня 2011 г., м.н.с.к.*

## Слайды

У летніх снах пад подых навальніцы
Сябры, як слайды, йдуць па аднаму.
Я часам веру, што жыццё нам сніцца...
Хоць знаю, што насамрэч — мы яму...

*28 ліпеня 2010 г., Гомель*

## Дэпра

Дэпрэсія як разуменне таго,
Што ўсе сцэнары негатыўныя.
Сталі разумныя, былі наіўныя.
Правая справа левай нагой.

*24 лютага 2014 г., м.н.с.к.*



## hardcore narodowy

нам праспекты сталі канспектамі,
што залілі ў глоткі волава
прачыналіся мы з німфеткамі,
набівалі штыкеты словамі
іх палілі мы, так нас торкала
ад Няўзорава да Празорава
і каб стаць пасля narodowymi
мы шчыра жылі хардкорава

*19 ліпеня 2013 г., м.н.с.к.*

## Ты

ты — чалавек-трэкліст
чалавек-падкаст
чалавек-дарагая-рэдакцыя-пастаўце-боба-марлі-мне-так-пагана
чалавек-абстракцыя
чалавек-атракцыя
чалавек-мама-бля-так-не-хачу-ўставаць-рана
чалавек-мастурбацыя
чалавек-незагойная-рана
чалавек-вы-ўсе-такія-смешныя-з-таго-боку-экрана
чалавек-пад-кайфамі
чалавек-метафара
чалавек-а-не-йшоў-бы-ты-нахер, а?
мне з табой, смертным, нармальна выпіць па поўнай
а ты жыві і цешся, калі так лягчэй, што я табе не роўня

*26 красавіка 2013 г. м.н.с.к.*

## Троіца

ёсць з кім жыць, з кім спаць, каго кахаць…
троіца — ці вобразная з’ява?

## Кропка Г

паэтам не даюць Гедройца,
даюць паэтам проста так

*1 верасня 2013 г., м.н.с.к.*

## Надзюха і латыш

Ты засынала з Вольскім,
Я прачынаўся з Земфірай
Можна было сказаць — здрада,
Не было каму нас судзіць…

З лёгкім акцэнтам польскім
Бурбалкі «Швэпсу» шапталі
Нешта пра новы парадак,
Сэрцаў двух залатую ніць…

*9 студзеня 2012 г., м.н.с.к.*



## Маёр

Сны на мове — значыць, не памёр,
Жоўты ліст — не смерць, хутчэй натхненне.
Не выкручвай рукі мне, Маёр.
Вечнае не скорыцца імгненню…

*29 верасня 2011 г.*

## жорны

мелюць жорны  зерне нашых мараў:
мудрасці не слухае каханне.
недзе паміж катам і ахвярай
станеш у строй і выйдзеш на світанні

сваё ймя заменіш ты на роспач
у той святой чарговай барацьбе
а на золку глянеш у твары побач
і пабачыш там адно сябе

## Download complete

пакладзі руку мне на шолдэр
і скажы, —
«не грузіся,
хай грузіць IFolder»

*13 лістапада 2013 г., м.н.с.к.*

## А ты?

ніколі ніколі
не вер маргіналам,
ніколі ніколі
не стань адным з іх.

як словы паволі
ляцяць над абшарам,
так і твая роля
біць рыфмай пад дых.

ніколі ніколі
не вер ты паэтам,
ніколі ніколі
ты з імі не пі.

паміж зямлі солі,
я ведаю гэта,
ёсць камякі болю.
а ты? ці такі?

*9 сакавіка 2011 г., Гомель*

## Час

час замяняе твары на рылы
час замяняе сяброў на магілы
і ў спісе кантактаў чорныя дзіры
нясеш ты пакуль не заменяць цябе

*30 жніўня 2014 г., м.н.с.к.*



## Пра кветкі, фацэтаў і вартаўніка

на магіле маёй расцвітуць незабудкамі
п’яныя вочы Маторына з Будкіным
плюс пара кажаноў, што рвуць цішу
і вартаўнік — «кыш, кыш!»

нядрэнна было б, каб і вішня расла
можа, нехта пакіне мядзведзіка
пра блакітныя кветкі нехта скажа праз мат
мінаючы нас, — «Ну не педзік, га?»

пацалуй мяне прама ў лаяльнасць
калі ты гэта таксама бачыш
не плачаш? бо нехер тут плакаць
сумныя думкі — «кыш, кыш!»

*м.н.с.к.*

## */*

галава / фуражка
цішотка / цяльняшка
сякера / калода
краіна / свабода

*19 сакавіка*

## сантэхнічны дзэн

вока бога нікога не пакідае абыякавым:
то ў арнаменце яно, то ў трохкутніку.
а бывае, што яно — дзірка трубы пад ракавінай
трэці дзень стаіш на каленях. адчуваеш сябе пакутнікам

магдалена твая — у сяброўкі. хутка вернецца.
апосталы — як гадќ. былі, ды мінулі
вішня за гаўбцом — самы смак, можна рукой дацягнуцца!
пуэр. Іздрык.
дзэн…

*9 ліпеня 2013 г., м.н.с.к.*

## Гімн

на каго ты крышыш залаты батон?
хто ідзе там — пофіг. ты заўжды адзін
напішы калонку, разгрузі вагон
і спявай начамі свой уласны гімн

*26 сакавіка 2014 г., м.н.с.к.*



## Узяцце Парыжу

Я танчу мамбу
Ў блакітным трыко
Палескі мне мост —
Трыумфальнаю аркай

Пяю дыфірамбы
Нудот і гаркот
Прыйшоў Дзед Мароз
І спытаў на запалкі

«Таварышч, эх, нам бы
Адбіць гэты дзот…
У атаку! Наўпрост!» —
Працягнуў мне «Кадарку»

Яго я не ганьбіў
Відаць — патрыёт!
І з рыльца, пад тост
Нас парвала ў кавалкі

*16 снежня 2010 г., Гомель*

## А. Г.

Гадам буду, —
Адам Глёбус
Сёння ноччу сніўся мне

З новым годам, —
Гадам буду, —
Шчыра віншаваў мяне!

Кока-колы
Келіх кола
З каньяком якімсь пілі

Потым к'янці,
Каву квола,
Карацей — як што знайшлі

А калі ўжо развіднела
І прыехаў аўтазак,
Мне сказаў таварыш Глёбус:
«Хопіць піць! Бывай, мастак!»

*20 чэрвеня 2010 г., Гомель*



## З(варот) пакалення А ў пакаленне Б

Ты ведаў боль,
Я ведаў кайф.
...Дрыжаць пяшчотныя далоні
І Джоні Дэп,
І Лэслі Найф —
Мы госці ўсе, мы ўсе ў палоне

Пад столлю белай —
Цвіль «Майн Кампф»
Пакутныя сціскае скроні
Такая роль:
Нам Гербалайф —
Што мак, што куфаль «Абалоні»

Адзін пароль
Як сумны драйв —
Надзеі незгасальны промень
I jeden Bóg,
I jedno Life,
Нас лёс абачліва бароніць.

*19 чэрвеня 2010 г. (дзень нараджэння Васіля Быкава), Гомель*

## Наша альтанка

А ты даруй нам, дзед Васіль,
Не ўсё мы, пэўна, зразумелі
Жаўцее восень. Еду. Стыль
Жыцця майго, нібы арэлі

А ты даруй нам, дзед Рыгор,
Мы ў гэтай восені шукаем
І рай і вырай. За бугор
Таксама нехта адлятае

Даруй, дзед Фёдар, што сышлі
Зямлі так мала зналі пальцы
Ды дрэвы песняй прараслі
Шумяць у нашае альтанцы

*12 кастрычніка 2009 г., м.н.с.к. — Баранавічы*



## Homo aquarius

І зноў, як колькі год таму,
За кропляй кропля — долу, долу
Маўчыць стары, юнак «Чаму?»
Ізноў пытае; гэць дазволы!

Буяюць дрэвы, карані
Сваю вадою толяць смагу,
Агнём лясы ды трухай пні
Ідуць у нябыт. Жывем няблага:

Хтось мае хэнць, хтось любіць ружы,
А хтось ад ідна п’е віно,
Мільёны кропель у калюжы
Заўжды зліваюцца ў адно

І той юнак, калісь імклівы,
Крыклівы, прагны і шпаркі
Маўкліва з галавою сівай
Стаіць ля берага ракі…

*26 чэрвеня 2010 г., Гомель*

## Развіднела

Развіднела.
На вуліцы выйшлі
З сутарэнняў
Замшэлых з табой
І чырвоным,
Як спелая вішня,
Наліліся…
І сонца з вадой,

Што ў далонях
Сваіх згарталі
Чырвань тую
І песцілі нас,
Заблішчалі
Сцяжынай на хвалях,
Па якой мы
І крочым скрозь час.

*11 ліпеня 2010 г., Гомель*



## Прыярытэты

Не мы такія — час такі
Сціскаеш зубы й кулакі
Твайго жыцця чарговы дзень
Адно кругамі па вадзе

Паволі бурыцца асфальт
Пад ціскам маладой травы
І што было — то не шкада
А будзе што? Як хочаш ты!

І ўсё адносна. Новы хіт
Ты чуеш, мроіш, робіш від
Ад думаў гэтых млосна ды
Тэлемасты згараць у дым

На папялішчах іх шукаць
Пад небам горад залаты
Знайсці, узняць, узгадаваць!
Праз словы дзей што скажаш ты?

*2009*

## Крок

Крок!
Палёт!
Праз цемру ночы
Душа
На ўзлёт
Асфальт у вочы

Наперад
Крок
Бывайце людзі
Адзін
І ўсё
Мяне не судзяць

Паветра
Ў твар
З апошнім крокам
Мой
Гаспадар
Прымі прарока!

*Да 2002 г.*



## Здраднік

Ты цалуеш мяне перад сном
Твае вусны як нафта з ільдом
І пад тых пацалункаў картэжам
Я губляю прытомнасць dot com

Я гукаю імя не тваё
Рэха здрадным пяе салаўём
Раптам крык і я падаю з вежы
File not found — пякельны аблом

Ты крычыш на мяне перад сном
Твае вусны зайшліся агнём
Гэта — бан, і, магчыма, навечна
З вейкаў падае попел-праклён

*Кастрычнік 2011 г. — 5 лютага 2014 г.*

## Паважаным быў ён чалавекам

Паважаным быў ён чалавекам,
Хоць не быў дырэктарам завода,
Хоць не быў ён старшынёй калгаса
І не жлукціў у райсабесе ён каньяк.

Ён не быў афганскім ветэранам,
Клаў урачыста на мастацкія суполкі
І не спаў з паловай факультэта,
Хаця шмат хто думаў: гэта так…

На сняданак ён любіў яечню,
Не любіў метро, любіў трамваі.
Бо кандуктар, гэта ўсім вядома,
Мае больш душы, чым турнікет.

Не вісеў на дошцы ганаровай
І не меў дысконту ў сушы-бары.
Проста, калі крыўдзіў чалавека.
Аж да ранку ён не мог заснуць

Тое бачылі хіба адно фіранкі,
Ды і тое толькі так — усяго паловай.
Свет астатні спаў і падсвядома
Яму ў карму ставіў новы плюс…

*Верасень–кастрычнік 2011 г.*



## Паэзія

Маладыя шакалы
Услед за старымі
Аббіваюць вакзалы
Нябёснае Вільні
А старыя шакалы
Маладым наўздагон
Блаславенне з трыбуны
А ў сэрцы — праклён.

Праўда, Божа, што я — адзін з іх?..

## Розы вуліца

Мяккія пухнатыя камякі снегу падаюць долу.
Люксембург. Розы вуліца.
Абмяклыя ў пухавіках алкашы паўтараюць рух камякоў
На скрыжаванні з Лермантава, на рагу побач з культавай крамай

На апошнім паверсе сталінкі створаныя ўсе ўмовы Для назірання й аналізу падабенства дзіўных атмасферных з'яваў.
Люксембург — гэта лепшы раён горада
І, натуральна, цэнтр Еўропы і талерантнасці

Тут жывуць прадстаўнікі ўсіх літаратурных саюзаў,
Хаця нарадзіліся ўсе ў Саюзе адным
І частка так любіць чатыры літары, якія збярог білет камсамольца
Другая з імпэтам чатыры літары шле на тры, не ўсе з якіх зычныя

У доме насупраць тры чвэрці стагоддзя назад на аднаго жыхара стала меней
Добрае хутка знікае — як мяса з прылаўкаў цяпер
Унучку паэта-нацдэма тут у дзевяностым згвалцілі тры жаўнеры
Два з Ленінграда і адзін з Даўгаўпілса. Братэрства народаў здараецца ў розных праявах

Праз дзесяць год знік іхні сусед, падтрымка й апора.
Ён добра ведаў кошт пяцілітарных словаў — грант і адкат
Але ў год трох нулёў, бачна, баланс не сышоўся
Цяпер там жыве адзінокая пані з філфака. Кола гісторыі, можна сказаць, замкнулася



Яе маленькі байструк цяпер гуляе ў танчыкі дзетак унучкі
І часта так голасна кажа: «Мама, я буду ваенным!»
Але разумення паміж пакаленнямі ад часу Сакрата болей не стала
Суседка чуе той маніфест, крышыць цыбулю на кухні і плача

У прынцыпе ўвесь свет — адна вялікая вуліца Розы Люксембург

**Цана кампрамісу***

Аднойчы, нядзеляй светлай і сонечнай,
Калі вера палае вераснем і лістотай сцелецца,
Пад нагамі сумніваў перхаць. Табе не хапае горычы.
Не таму не хапае, што соладка, а так, —
бо занадта верыцца.

Ты, бывае, патрапіш да роўных.
Перад богам усе ж роўныя, — і лагічныя і цынічныя.
І тут знянацку спытае цябе прадстаўнік
ультрапамяркоўных:
— А вы сталічны, прабачце, ці не сталічны?

Нам, людзям прапіскі рэгіянальнай,
Да вас вельмі далёка, канечне!
— Так усё каструбавата ў вас тут, ведаеце, і банальна…
Чалавек я просты. На сняданак люблю яечню, —

Ты падумаеш. А скажаш шэптам: «Ідзі-к ты нахер,
Прадстаўнік, тожа мне, тытульнай нацыі…»
Божа ж, божа, такую тытульнасць не вазьму і за талер.
Падвядзеш рахунак радком, і аздобіш чарговай «-ацыяй».

А на біс у гэты дзень распнуць маладую паэтку,
Што ў натоўпу вачах на пятлі самацэнзуры павісне.
«Дааа, — пачэшаш патыліцу, — пішы пра свабоду
зімой, а некралог сабе — улетку».
Ёсць надзея. На разуменне. А праз месяц яны
распнуць Зісера…

---

* Верш распачаты ў верасні пасля атрымання дыплома ў беларускім ПЭН-цэнтры і завершаны ў кастрычніку падчас шырокага грамадскага цкавання партала тут.бай



Нагадваю — перад Богам*(*глядзі вышэй)
**(** нeee, яшчэ вышэй) усе роўныя,
Дыпламаваныя ў крыважэрнасці. Пасынкі даліны Ісы.
У цягніку Менск–Кіславодск ты  заглянеш у люстра,
і раптоўна там

Праз цішотку «ББ»
крывавай слязой
праб'ецца яна.

Цана кампрамісу.

*Верасень–кастрычнік 2011 г.*

**Кроплі лістапада**
**(памяці Олдзі)**

Калюгай агромністай
Пры канцы лістапада
Ляжу на падлозе
Лье неба бальзам

Гэтыя кроплі — як голас Камоцкай
Гэтыя кроплі — шалёны Высоцкі
Гэтыя кроплі — слязьмі Кактэбелю
…і Камітэтам Аховы Цяпла

Гэтыя кроплі — як люты Патоцкі
Гэтыя кроплі — памежнік літоўскі
Гэтыя кроплі  і водар ялею
Гэтыя кроплі — я сам…

*22 лістапада 2010 г., Гомель*

## Даруй мне, мама

Даруй мне, мама, што не стаў інжынерам
Даруй мне, мама, што не стаў афіцэрам
Бо інжынераў і афіцэраў
Тут да халеры заўжды

Як хаваюць паэтаў — не чутно стрэлаў
Як хаваюць паэтаў — не чутно гімнаў
І толькі ціха, з зямлёю побач
Пачуеш — звіняць званы...

*22 лістапада 2010 г., Гомель*

## Amour

Тут холадна, марудна і далёка
Гатэль армянскі і размовы пра бэклайн
Вайна фарматаў нашае галёркі
Ахвяр не мае, у сэрцы мірны май

Ці травень. Ды галоўнае не гэта
На ноч я цёплыя панчохі апрануў
Амур-рака цячэ і круціцца планета
Далёкі ўсход, а мне ўсё mon amour...

*19 лістапада 2009 г., Благавешчанск*



## Водарам

Водарам, а не кветкай
Застацца добра ў вяках!

Гонарам
Чужым дзеткам
Дрэўкам, што ганьбіць сцяг

Гоманам
Па-над лёсам
Сваім і чужым, бо ты —

Колерам
Занябёсным,
Не першым і не другім

Талерам
Неразменным,
Якога ў кішэні няма

Возерам
Неабсяжным
Бязводным, дзе плыць дарма

Берагам
Запаведным,
Які не ўбачыш у снах

...Водарам, а не кветкай
Застацца добра ў вяках!

*30 лістапада 2010 г., Гомель*

## Як напоўніцца сэрца любоўю*

Як напоўніцца сэрца любоўю,
Ты адчуеш і так будзеш жыць.
Не схаваць салаўя ў кустоўі,
А шчакам веку слёз не забыць.

Не забыцца і хвалям на вецер,
Не скарыцца тужлівасці дзён
Нам, адчайнага полымя дзецям
Нам, адчуўшым той велічны звон

Што чуваць і ўдзень і на поўню
Людзьмі звацца і зваць, не забыць!
Як напоўніцца сэрца любоўю —
Ты адчуеш і так будзеш жыць!

*11 снежня 2010 г., Гомель*

* Інспіравана Re1ikt.



## Пошук (ctrl+F)

Я шукаю яе зноў у шэрагу дзён,
Вышэй і вышэй, ці бліжэй і бліжэй?
Бачыш? — Не... Чуеш? — Што?..
Шэлестам шолахі шэпту душы

Я шукаю яе. У забытых кутах —
Стужкі замшэлых знішчаных душ
Бачыш? — Не... Чуеш? — Што?..
...шчасце, маеш паперы хоць аркуш...

Я шукаю яе, я штодзённа шукаю,
Шторанак, штоноч, штоімгненне...
Бачыш? — Не... Чуеш? — Што?..
— Шэрай іржы табе запрашэнне!

Я шукаю яе. А што шукае яна?
Шанец? Пашану? Шляхецкага шляху?
Бачыш, не?!  Бачыш, Шайтан,
Што шчырасць віншуе нашчадкаў нашых!!

*2009*

## вальс

І мы пайшлі цыганамі Еўропы
І Якаў плакаў, Ян быў зранку п'яны
І кроплі, кропкі, кропачкі і кропы
Злічылі і аддалі камянямі

Злічылі і ашчадна прыхавалі
Цыганам уласціва мець запас
І рушылі туды, дзе нас не зналі
Каб далі сталі блізкімі для нас.

Нам невядомае раскрылася вядомым
І ўсходы на раллі, як ба, — узышлі
А нашае шматкроп'е — punkt, punkt, coma
Пад каменем душы прыбераглі

І моцна так шматкроп'е нас звязала
Адасабленнем наш узмацніўшы сказ
Дарма, сябры, пужаць цягнік вакзалам…
І мы пайшлі… між кропак танчыць вальс

*20 жніўня 2010 г., м.н.с.к. — Масква*



## Бранзавею

Я на тралейбусным прыпынку
Стаю сабе і бранзавею
Стаю паміж царквой і рынкам
Скрозь скрухі, грукі і завеі

Стаю паміж зямлёй і небам
Па святах больш — наадварот
Народ мой справа, злева — глеба
…мінае высакосны год

Мінаюць вёсны, зімы, леты
Мінае ўлада, мода й рок
І ўсе народныя прыкметы
Адное кажуць — зрабі крок

Але стаю я нерухома
Збіраю новыя ідэі
І звонку людцам — нібы кома
Унутры ж няспынна бранзавею!

*14 кастрычніка 2010 г., Гомель*

## Дабраначк

Няхай мне прысніцца вораг народу
Чарговы, закляты і антысавецкі
Парадаксальна не маючы згоды
Падступнай рукою забіты пад Клецкам

Няхай мне прысніцца яшчэ палітвязень
Паэтка-сялянка і ў валасах — вецер
У сне маім цёплым — бяроза і ясень
Прыгорак, рака... засынаю а трэцяй...

*26 лістапада 2010 г., Гомель*

## Спі, Міхал

Спіць пад зімовым сонцам мой горад паспаліты
Цёплае сэрца прыме халодная зямля
Ад надпісаў на партах да надпісаў на плітах
Мы куляй па жыцці.
Каб шар крыштальны знік. І
 сум.
І цень крамля

*28 студзеня 2014 г.*



## Калыханка

Паснулі ўначы маніторы
І пікселі спяць на экранах
Паснулі творцы і творы,
Каб каву спаткаць ад рана

Спі, Мая мілая,
Сні Свет без агід і хлусні
Спі, Мая добрая,
Мрой Свет, які пахне вясной

Раніцай лепшае будзе
Абудзяцца творцы і творы
Застанецца з кімсьці жыць муза
На шчасце, а можа, на гора?

Спі, Мая мілая,
Сні Свет без агід і хлусні
Спі, Мая добрая,
Мрой Свет, які пахне вясной

На маніторах нябёсаў
Адсочваюць муз і паэтаў
Там пікселі нашых лёсаў —
Занатаваным канспектам...

Спі, Мая мілая, Спі...

*1–6 снежня 2010 г., Гомель — Баранавічы*

## Сцены

Бачылі слёзы сцены більярднай,
І ведалі пальцы цаўё.
Страцілі розум у сям'і мільярднай.
Сэрца пяе салаўём.

Песцілі гонар той песні такты,
Мелодыяй плылі вякі.
Сэрца, пачуццяў парванае пактам, —
Бок яно возьме які?

Мастоў ахінулі пальцы мой горад,
Як сэрца тое ў кулак.
І сцены більярднай маўклівыя па-над
Бачылі, што, дзе і як.

Спакуса, пагарда, покліч сумлення —
То быў салавей розных сцэн.
Кій і цаўё кожнага з пакаленняў
У ценю більярднай сцен…

*15 студзеня 2010 г., Гомель*



## Танцы

магчымасць — нявеста
рэальнасць — удава.
пачэснае месца
ля кагальнага рва

нам дадзена кімсьці,
немаведама кім.
налі, зміцер, дзвесце,
горкі выдыхні дым.

сабака пярэсты
хоча ласкі, цяпла.
магчымасць — нявеста,
што ад нас уцякла

і роў і сабака
хочуць долі другой…
музыкі, грай року!
я танчу з удавой

*7 сакавіка 2011, г. Гомель*

## Сакэ (думы пра японку ў тралейбусе 29, што едзе ў бок Сэндайскага сквера)

Скажы мне, дзяўчынка японская,
Дзе думы і мары твае,
Якою жывеш ты ростанню,
Парадам якіх планет?

Аб кім ты адна ўчора плакала,
Хто душы падліваў бальзам,
А хто стаяў абыякавы,
Хоць крэўны твой быў байсан?

Хто твае цалаваў далоні,
Ўпотай ногі белыя сніў,
Змагаўся і быў у палоне,
У кратах вачэй касых.

Хто пісаў табе вершы ўзнёслыя,
Малочны купляў шакалад...
Ўчора — дзеўка, сёння дарослая.
Стаўся віном вінаград.

Скажы мне, дзяўчынка японская,
Як еднасць стварыла бяда.
Я крочыў наперад, ды позна, блін:
...Раманаўская слабада!

*20–21 красавіка 2011 г., м.н.с.к.*



## свабода

свабода... 7 літар, якія
як ода, яны вабяць нас

баладай,
яскравай багіняй,
якая
выплясвае вальс

жанчынай прыгожай жанчынай
Венерай, якой сніцца Марс

і одум
маўкліва знясіліць —
яна ёсць
у кожнага з нас!

і потым
мы станем цнатлівей
можа быць,
зменіцца час

і подых, — ці стаў ты шчаслівы?
таксама пацішыцца ўраз

...свабода...
сем літар, якія,
якія
ёсць у кожнага з нас....

*22 лістапада 2010 г., Гомель*

## Лёд

Сэрцы нашы
закуты
лёдам
Стаў крыштальным
паветраны
шар
Стаім клінам,
сочым
употай
Як ён коціцца
карнікам
мар

Вось упаў
мой сваяк,
не ўстане
Побач лёг
і бязмоўна
сказаў
Застанецца
навечна
ён з намі,
Нашых скроняў
пульсацыяй
стаў

Мы ж стаім
вякамі-
дубамі
Пульсуем
аортай
парванай.



Крыві кроплі
стануць
цунамі
Шар не вечны,
позна
ці рана…

*6 студзеня 2011 г., Гомель*

## шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
пішу шэптам і з пашанай
штандар шэры над кляштарам
шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
на паштамце шалясценне
аркушоў і шапаценне
шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
шэльмы шэльмаў шкваркай лашчаць
штольні душаў нібы пашчы
шлю паштоўку арыштанту

шлю паштоўку арыштанту
плошчы нашы нібы прошчы
па шчаках на шчасце хвошчуць
шлю паштоўку арыштанту

*23 снежня 2010 г., Гомель*



## вось і мы цяпер як усе

Ну вось і мы цяпер як усе —
Не людзі, так, аскепкі болю...
Карону так баран нясе,
Што статак увесь дзеля забою

Ну вось і мы цяпер як усе —
Не свечы, так, агаркі лёсу
Мы ціха таем пакрысе,
Злятае золата з калосся

Ну вось і мы цяпер як усе —
Сам-насам са сваёй бядою
І ліхалецця карусель
Малоціць цэпам зерне тое

Ну вось і мы цяпер як усе —
Мукою сталі, амаль пылам.
— Па цукар сёння мы ў чарзе?
— Па восем лічбаў на магілах...

*13 красавіка 2011 г., м.н.с.к.*

## Як нахіліцца крыж

Як нахіліцца крыж, паглядзіш ты на неба
І яно ў адказ паглядзіць на цябе
Богу — богава, труну — глебе
Вось і ўсё. Нібы шум у галаве

Загалгочуць высока птушыныя
Галасы над разлогам жыцця
І заплоцім мы, калі вінныя
Колькі трэба. Які б ні быў сцяг

І ў нябёсныя вочы гледзячы
Мы бясконцасць пабачым там
Неўміручую і адвечную,
Што нябёсы пазычылі нам

Вочы ў вочы — як люстра дзіўнае
Гэты позірк маланкай блісне
Паляцяць да вясны сонцакрылыя
І парушаць струмені снег

І былое пад снегам пабачыцца
І аголіцца дзеяў пейзаж
Выбачайце, у спісах не значыцца, —
Хтось пачуе і зменіцца аж

Ўсё адкрыецца прозай ці вершамі
Каму адлігаю, каму лютай зімой
Прыхавайма ж пад снегам найлепшае,
Покуль крыж не пастаўлены твой…



## Лічылка XXI

хмаркі шпарка ходзяць хеўрай
маем долары і еўра
мужнасць, годнасць, хваляванне
і цярпенне. за юані.
вільнюс, прага і варшава
чарка злева шкварка справа
вашынгтон брусель і масква
сяброў — кола, сяброў мноства
нафта з газам — ланцужочак
малако і тваражочак
для смаленска й беластока
у аан стаім вытоках!
хулі толку, братка родны,
ад хлусні паміжнароднай?
вось такая вось такая
табе гулька ралявая
то ягадна-пладовая
роля твая бядовая
вай вай вай вай вай вай
еш нуклідны каравай
вай вай вай вай вай вай
каго хочаш выбірай
трафік таннай наркаты
выхадзі, гэй, з кругу ты!
ам-ап ам-ап стэнд ап стэнд ап
вось баланда вось мандат
хто наступны кандыдат?
…і г. д.

*8 студзеня 2010 г., Гомель*

## 10 год, Беласток

10 год, Беласток,
Гэта, пэўна, зашмат...
«Нулявых» баранок
Стаў падшыўкаю дат

У чаканні курок
Недаіграны рок
10 год, Беласток,
10 год...

Кожны новы радок
Рэхам сэрца назад
Як здранцвелы вянок
Я ахвяра ці кат?

недапалены план,
нездзяйснёны раман,
ну і што, Беласток,
ну і што?..

І Земфіра знарок
Пра жыццё-кампрамат
Шаўчукоўскі акорд
«Белых рэчак» няшмат

ненароджаны сын
неда-белай-зямлі
гэта я, Беласток,
гэта я...

Нам башкірскі прарок —
Ад сумленнасці сват
Плыня чысціць пясок,
Бераг берагу брат



дзеці Белай ракі,
па жыцці як рыззё,
вось і ўсё, Беласток,
вось і ўсё...

Свой пясчаны палац
Мы і той — пад замок
Наш ляціць пепелац
Нам утульна, нам ОК

нехта змог, нехта здох
нехта ў рай, нехта ў блок
не сумуй, Беласток,
не сумуй...

*29 чэрвеня 2011 г., м.н.с.к.*

## O. D.

Пад чым ты будзеш заўтра?
Пад «нікам» ці пад «катам»?
Пад Ніка ці пад ката
Назаўтра ляжаш ты...

Спытай у «касманаўтаў»
З чацвёртае палаты,
Які транквілізатар
Уводзяць маладым

Пад чым ты будзеш заўтра?
Пад небам ці пад «фенам»?
Па венах ці па генах
Твой човен паплыве

Харон твой будзе ў чыстым,
Бялюсенькім халаце,
І твой шалёны атам
Ён мірным назаве

Цябе сустрэнуць людзі,
Што доўга не хадзілі,
Табе пастаўяць «лайкаў»
Тузіны два за раз

Табе сыграюць Пуцін,
А потым Клінтан, Білі
Блюза на балалайцы,
На саксафоне — джаз

На жаль, ты не пачуеш
Ні року, ні прарокаў,
Ні песень, ані крыкаў
Ўжо не пачуеш ты



Бо ўжо на такце першым
З тваім апошнім крокам
Замкнецца кола прыкра,
Нягегла — перадоз...

*18 красавіка 2011 г., м.н.с.к.*

## X. Y. Z.

на мяжы генерацыі Ігрэк
я гляджу ў пакаленне Ікс
і адзін толькі бачыцца вынік
ўсё фігня: што місіс, што міс...

ўсё фігня: што містэр, што хлопчык
ўсіх раўняюць труна і вакзал
ты не тое заўжды, што ты хочаш
толькі тое, чым у выніку стаў

за падзякамі маеш пагрозы
а каму і старт-апам карніз
у жыцці нашым мацерна-розным
толькі лічбы пад фота на біс

## Ай, Іван...

Ай, не рві мне душу
Ай Іван, ай Кірчук
Што ў сэрцы нашу
То нябачна наўкруг

Колькі дзён, колькі год
Я ўсё еду Ўдаля
І што Захад, што Ўсход
Усё ёсць доля мая

І усмешка мая
Ад мяжы да мяжы
І адная Зямля
Ад шашы да імшы

Толькі ноч, толькі дзень
Свет душы, пальцы рук
Як пяра-варацень
Кожны гук ганю ў друк

...Ай, не рві мне душу
Ай Іван, ай Кірчук....

*15 снежня 2009 г., м.н.с.к. — Масква*



## Новай Расеі

Учора выпаў снег і было радасна
Хоць і сумна як заўжды было
Кпіў хто з нас — ванітавалі ўласным пафасам
Прыадкрыўшы дзверы растаможаных аўто

І заткнулі рты з парадамі парадныя
І знямеў ад безвыходнасці кадык
А мы елі крупнік і казалі ціха, як пры Сталіне:
«Ты цярпі, Іванка, ты ж мужык!»

Нашы вочы люстравалі сотні «лайкаў»
Пад навінамі — крывавымі й не вельмі
У лад з дудой зайграла балалайка
«У добры шлях!» — падкрэсліў злосны геній

Інтэлігенцыя была і каляровыя
Цяпер проста — алкашня і підары
Добры дзень у хату Вам, Расея новая!
Трэці Рым вітае новых гітлераў

Я сядзеў на кухні і з эпохаю
Вёў гавэнду нетаропка і разважліва
Чым быць лепш: асмеянымі дробкамі
Ці прагнілым боханам ашчаджаным?

*2011*

## Крывавая поўня Крыму

спі, каханая, спі, ты прачнешся без улоння,
з якога мы ўсе прыйшлі да цябе
я крычу, і маўкліва-крывавая поўня
толькі плача дажджом пры халоднай зямлі

я прачнуся таксама — нулём у мільёне,
на праспекце заўжды пахне кавай з віном.
памалюся адно за Сатурн у Скарпіёне
за людзей больш не буду, бо згубіла то плён

на праспекце заўжды пахне хлебам і воскам
толькі ў глотку не лезе і свяча не гарыць
і цярновыя скруткі становяцца коскай
і па пальцах касой, каб падумаць, як жыць

неяк далей і зноў толькі думаць штопоўню
хіба лепш мёртвы дух за нятлеючы прах
штопоўня — яно кшталту штопар плюс поўнач
бо пра поўдзень цяпер толькі ў снах. толькі ў снах.

спі, каханая, спі, ты прачнешся без улоння
з якога мы ўсе прыйшлі да цябе
я крычу і маўкліва-нябёсная сотня
толькі плача дажджом пры халоднай зямлі

*16 сакавіка 2014 г., м.н.с.к. роза*



## Вера

Што даў нам Бог?
Хіба што нашу еднасць…
І спачуванне тым, каму баліць.
Міламу сэрцу будзе міласэрнасць.
Што даў нам Бог?
…хіба што шанец, — жыць!

І ні аб чым у Бога не прашу я,
Тым болей не прашу я ў людзей,
Наш лёс завуць — гасцінец, шлях, дарога,
І мы рупліва крочым між падзей.

Так, ні аб чым у Бога не прашу я!
Бо ўсё вялікае народжана з малога,
А вера — з спачування і надзей.

*9 жніўня 2010 г., Масква–Гомель*

## ...назаўтра была зіма

Ці ўсё мы сказаць паспелі?
...назаўтра была зіма...
Хісталі жыцця арэлі
...хісталі кагось дарма...

Хісталі жыцця дарогі
Шырока, на ўсе бакі
Маўкліва ведалі ногі,
Што трэба ісці напрасткі

Паснулі Купала і Колас
І светам сапце вайна
Гукайма ж вясну ўголас!
...назаўтра была зіма...

*30 лістапада 2010 г., Гомель*



## Праз туман

Праз вільготны туман
Ты няспынна ідзеш
Кажуць — самападман,
Ты паперу псуеш

Кажуць — «трэба было»,
Кажуць — «слухай сюды»
«Вось тваё Ватэрло»,
«Вось твае гарады»,

А яшчэ кажуць «як»
І, вядома ж, «калі»
«Га, ужо свіснуў рак!»
«Узнагароду далі...»

Ну і гэдак далей, —
«Вось табе аватар!»
А туман між палёў
Рэжа светлы ліхтар

Шчыры, светлы ён ёсць,
Бо ёсць покліч душы.
Як ідзе маладосць —
Не стаптаць гамашы!

*5–6 снежня 2010 г., Баранавічы*

## Святы Мікалай

Пан Святы Мікалай
Хутка прыйдзе да нас
Цуды ў сэрцы трымай,
Тады зменіцца час

Як не зменіцца люд —
Ведай ты ўсё адно
Тут што цуд, што прысуд —
Мастака палатно

Ты на тым палатне
Сам сабе Мікалай
Хочаш — праўда ў віне
Хочаш — базавы рай

Самапісны герой:
Хоць кірза, хоць атлас
Галерыст над сабой
Кожны з нас, кожны з нас...

*Снежань 2010 г., Гомель*



## Апошні цвік

Труны маёй апошні цвік
Заб'е апошні бальшавік
Чырвоным плюне ў белы сцяг
Я буду дома. Ён — у гасцях
І хоць не ўбачыць ён таго
Я памалюся за яго

Лапату возьме, каб сагрэцца
І раптам схопіцца за сэрца

І ў сонечны вясновы дзень
Ка мне ў магілу упадзе
Я буду ціхенька на дне
А ён нязграбна на труне
Анёлы пузы надарвуць
Пакуль на суд нас прывядуць

Прысудзяць ехаць вечна побач
На поўдзень — я, а ён — на поўнач

*13 студзеня 2010 г., Гомель*

## Цытаты нашага цягніка

«доўгай
дарогай
дадому...»
так,
радок гэты
быў недзе.
тлумачаць
сябры
знаёмым,
куды ён
няспынна
едзе.
так,
колаў грукат —
банальна,
не болей,
аднак,
чым сэрца,
«простыя
рэчы» —
рэальна,
бо простаму
не
здаецца.
побач
у купэ
вагонаў —
паэты
іншых
калібраў



укупе
сябе
бароняць,
завесіў
вокны
верлібрам.
ад свету,
Свету
і Светы —
жонкі,
што гне
натацыі.
цытатамі
рву
санеты
«сын
памылковай
нацыі»

*8 сакавіка 2011 г., Гомель*

## In thy heart

No one is perfect
Except God.
No one is perfect
And you are staring at him
But
He needs no prophet

He needs no prophet on the Earth
And at the Heaven
Because He knows that none of both
Will live 4ever

Will live 4ever in thy heart
But only love will
And tears tearing you apart
Just drive the life-wheel

Which can be slow as winter snow
Or fast as rocket
No one is perfect
Without Love
No one is perfect



## чЕ

вчера мы жрали ЛСД, сегодня крестим друг другу детей
и я не вижу в этом парадокса, Господи, слышишь?
стою. глотаю воздух со вкусом лояльных статей
в мире два-точка-ноль я не пробовал гадостней пищи

*5 кастрычніка 2012 г.*

## Мир

Мир.
Мир моторов мир людей.
Мир.
Мир гондонов мир блядей.
Мир всегда был чем-то больше
Чем звонки и стрелки в Польше.
Мир.
Просто столкновенье душ.
Просто столкновенье дней.

*23 жніўня 2013 г.*

## 10 правілаў хіпстэра

Першае правіла хіпстэра —
Скажы ім, што ведаў міністра
І каб не адна п’янка ў Польшчы
«Спіс» быў бы чарнейшым і большым

Правіла два. Па-прастоўску,
Нібыта ў клубе байцоўскім
Што хіпстэрам ёсць — не мусіш казаць ты,
Хай нават падвесяць за яйцы

Калі ж ты апошніх не маеш,
Чаго ж, феміністка, чакаеш?
Давай, мачы трэцяе правіла, —
Раскажы ім усю праўду пра валіум

Дадай just a bit of suicidal tendencies
Але малюнак прычапі з коцікам
І смайлік дадай. Збі агрэсію

Чатыры, пяць, шэсць — проста хіт
Кава, Старбакс, рэтвіт
Сука, я сказаў Старбакс і рэтвіт
Няма рэтвіту — ты дэгенерат і рахіт
Няма рэтвіту — няма рэспекту
Ні ў МакДаку, ні на Праспекце
Няма рэтвіту — бяры запалкі, вось каністра
Няма рэтвіту — похеру на міністра,
Чуеш, няма рэтвіту — няма ніякіх правілаў
Няма рэтвіту — можаш хаваць валіум
Няма рэтвіту — ідзі «убейся»
Ёсць рэтвіт?.. Тады проста песня

Пасля ўсяго гэтага пажадана вясёлая
Звані сябрам на ФМ — гэта правіла сёмае
Прасі песню — We Jammin — усё крута



Потым сябру — гаспадару клуба
Скажы, што ўжо едзеш, хай выстаўляе, Божа, так гарацъ трубы
Тырчыш яму бабак? Тады не так груба
Тады пажартуй пра Люсю з нябёсамі
І скажы, што едзеш і ВЯЗЕШ
І нешта пра машыну з калёсамі
Ну, ты разумееш… Такое правіла восьмае

Стаміўся ад пойла і сук?
Рэлаксні — заебаш лук!

І вось за два пункты да фінішу
Бах! Ты над пісуарам сусвет новы вынайшоў
Але ты паспееў азірнуцца
Блішчаць кайданкі, падпалкоўнік Канфуцый

Вылез у вакно? Нармуль!
Вось правіла нумар нуль:
Пішы, а пасля рэдагуй

Калі трэба бегчы, каб жыць —
Дык не тупі, бяжы

А колькасць правілаў — дым
Бо колькасць — таксама рэжым

*2013, Берасце — м.н.с.к.*

## Soul Jah needs inn

За што?
За што ты памёр, Салжаніцын?

ґрамадства-алкаш пад дзяржавай-спадніцай
шукала да шчасця дарог
хто Молах там быў а хто бог...
сусвет выдыхаў навальніцай

ад гэтага цуду Ван Гог
абсэнт падліваў самелье
той плакаў і піў, піў і плакаў
і падала вапна на спіну кахання на брудным стале

а потым знямог
і вангогам раптоўна ён быць перастаў
а срэбным ён стаў казярогам
цяльцом залатым

сваім рогам ён кожнаму душу парваў

аслеп і знямог
ад гарэлкі і тлуму
твой новы герой на праспекце між цумам
між цумам і гумам — а як жа ты думаў.
і гноем на ім напісаў

я паміраю але не здаюся
я бля ганаруся сваёй беларуссю
пастаўце мне помнік
я лепшы за Русю
пастаўце мне помнік
ілбом на вакзал



аслеп і знямог
не Далі не Ван Гог
я шчыры пацан нашых дзён

і фарбы мае
гэта каменны лог
Тэрэспаль, шашлык, Савіньён

аслеп  і знямог
не Далі не Ван Гог
не знаю дакладна чаму

мы плачам і п’ём, п’ём і плачам
магчыма нам нельга іначай
і наш келіх кола гарачы
пульсуе аортай — адно аднаму
цяжарная чортам — адно аднаму
жыццё па-за сортам — адно аднаму

Джа нашых душ патрабуюць карчму!
Джа нашых душ патрабуюць карчму!!
Джа нашых душ патрабуюць карчму!!!

За што?
За што ты памёр, Салжаніцын?

*2011–2014*

## масты

нізкі голас
нізкі старт
нехта блізкі
нехта гад
чорны волас
белы снег
голас знік
застаўся смех
тае снег
вада вада
смех і грэх
 заўжды на два
птушкі мрояць
аб зямлі
ў моры тонуць
караблі
bravo bravo
чалавек
хто заўважыць
а хто не
жыць наўпрост
ці жыць у сне
мост гарыць —
і попел услед

*2 траўня 2014 г.*



## Змеяносец

учора каханне, сёння шантаж
жыццё так падобна на салодкі мiраж
учора быў плач, а сёння ёсць смех
жыццё так падобна на апошнi паверх

з якога ляцiш ты, пiкiруеш ўнiз
і жыццё так падобна на слізкі карніз
некралог. інкарнацыя.
новы рэліз.
шоў маст гоў он. і зноў выхад на біс

людзі будуюць муры і дамы
бязглузда, бясконца і недзе там ты
ты знаеш, —
не сцены трымаюць нябёсы,
нябёсы трымаюць выключна масты

ты ведаеш лічбы
і ведаеш знакі
і ведаеш водар халоднай вады
і лёс змеяносца падасца ніякім
тым, хто не шануе мастоў залатых

*14 жнiўня 2014 г.*

## ёсць рэчы

ёсць рэчы, якія не захаваць прынт-скрынам,
не сцерці дэлітам,
не пераключыцца з іх шыфт-альтам
і не адшукаць
контрал-эф.

і ты,
калі ты быў там,
ты ніколі не будзеш іншым
бо жыццё выдае нам крэдыты
ты ставіш подпіс і не ратуе блеф.

такія працэнты не вучаць у школе
і калі прыходзяць анёлы
ім усё зразумела, акрамя таго,
што сёння ў тваёй кока-коле...

*Сакавік–верасень 2014 г.*



## Званы
## (паводле песні Пятра Елфімава)

Званоў сівых абуджаная медзь
Злілася з залатым агнём світання
Іх абмінула ліхалецце й хэнць
Да долі лепшай — сведка іх жагнання

Смерць
Заўсёднай стала сведкай іх жагнання

Званоў сівых абуджаная медзь
Ліецца з пакалення ў пакаленне
Яна дае жыццё, кранууўшы ледзь
І роспач перайначвае ў натхненне

Званоў сівых нам дадзеная медзь
Як люстра, увабранае ў скрыжалі
Разгледзець сэрца каб змагло й узяць
Усе ноты, што на дне душы чакалі

Званы, званы, скрозь час звіняць званы
Іх звон — то плач і стогн здранцвелай праўды
Іх голас — голас горкі як палын
І весялосць у ім сплялася з жальбай

То песні веры. Іх пяюць званы

*2012, м.н.с.к.*

**Рэха**
**(на смерць Шэфа)**

я не буду галіцца заўтра.

бо ты — не паненка.
я — жанаты.
і ў нас не спатканне.

я пішу, каб пісаць.

і гэта — херовая мантра.
гэта — херовыя вершы.

херова — што праўда, то праўда.

херова — адзінае слова,
якое сказаць і варта.
цяпер, калі выбар зроблены.
сваё атрымаў упарты.

цяпер, калі адшукалі
таго, хто дасягнуў мэты
сядзелі. пісалі. думалі.
параўналі прыярытэты.

што новага — ды ўсё па-старому
так, не крытычна. страшна.
люлей ледзь учора не выхапіў.
прыкінь, — на пахаванні з бланшам.

людзі зусім не змяніліся.
ды й не было з чаго.
у фэйсбуку тут дзве пабіліся
вакол разборак з табой.

адзнакі. маралі. увесь гэты фуфел.
класічная, лічы, тэма.



бяру адзін куфаль.

гляджу на сцены.

ні даць. ні ўзяць.
ні спытаць. ні парадзіць.
крычу ў неба. блядзь.
а рэха адказвае, — «ну чё ты, дядя...»

*1 верасня 2014 г., м.н.с.к.*

**Легенда**
**(паводле песні Fabiant)**

Вось
Мая легенда
Вось
Апошні сказ
Супрацьлегласці какецтва
У кожным з нас у кожным з нас

Вось
Мая свабода
Вось
Мая віна
Як бракуе кіслароду
Знае той, хто ўстаў са дна

захлынаючыся хваляй
аж нянавісць паўстае
светлым чоўнам між вякамі
мы плывем плывем плывем

першы вал
яшчэ імклівы
шосты вал
дай божа сілы
дай нам шанец
ўратавацца
алілуя —
вал дванаццаць

Вось
Наша легенда
Вось
Наш першы сказ



Прыйдзе новая календа
Новы дзень і новы час

Вось
Наша свабода
Вось
Наша краса
Неўміручая парода
Ніколі не плывем назад!

*2012*

## новы статус

глядзі, людзі хвасты пад німб схавалі
давай, давай, пабудзь побач з намі
спалі свае масты і адбудуй па новай
твой новы статус: сумны ці вясёлы?

новы статус — оу, так кранальна
што было ў планах — цяпер паранармальна
на фотках людзі адно што ценем сталі
пытанні дасталі што будзе далей

вясёлым будзе любы сцэнар абраны
калі глядзіш ты далей чым край глыбокай ваннай
твае цягнік і мост агнём апанаваны
але не блытай фінал з паранірванай

новы статус — оу, так кранальна
што было ў планах — цяпер паранармальна
на фотках людзі  адно што ценем сталі
пытанні дасталі  што будзе далей

давай давай пабудзь побач з намі
ламай ламай сумнівы на дэталі
давай давай пабудзь побач з намі
ламай



## Снайпер (паводле Botanic Project)

Са мной жыве снайпер — сучасных паданняў герой
І чую я — сэрца, як таймер, б’ецца начною парой
Не выпісвае глянец і не гоніць па венах булён
Са мной жыве снайпер. Адна на мільён!

Нашы скрыпкі дрыгвы феадалаў уводзяць у транс
Камітэт па ахове юнацтва раптам выкрасліў нас
На  аголенай скроні наша шчасце пульсуе, як рок
Мама на палігоне, калыханка — не сёння, сынок...

Са мной жыве снайпер, надзвычай цудоўны наш лад
Джынсы, кеды, J Mors і дзеці малююць Багдад
Скончыцца песня, застанецца кілішак J D
Са мной жыве снайпер. Ад вакна адыдзі!

«Усё скончыцца дрэнна, з апошнім трэкам Indiga,
На маім пахаванні ўсім быць у цішотках Адлігі», —
Так скажа нам мама, перад тым як працерці прыцэл
Шматкроп’ем абойма і клічнікам стрэл!

Снайпер — кожны з нас:
каму драма, каму фарс
Жаднай ролі ў рэжысёра
тым, хто хоча жыць па новай
Снайпер ты ці не,
ўсе мы на адной вайне
Чэкпойнт-Чарлі з Бобам Марлі.
Ён нікога не міне

## Розы Люксембург, дом 4

пакуль ты хадзіла па хлеб
вуліца Розы сышла пад абрыў
там свет такі, як і тут
нагамі адно дагары

там гуру медыйнага шчасця
акторы, жаўнеры і служкі
шчаслівыя ўсе падпісанты
з на горле зацягнутай стужкай

ты пішаш, а гэта значыць —
«дзе вашы рукі, сукі?»
і донар з вампірам танчаць
капаэйру вакол мясарубкі

замяняеш Piano на Mezzo
сябе ж не змяніць, і ладна
усмешка рве рот, бо смяецца
меркурый над табой рэтраградны

кругі па вадзе. show must go on
заўжды так было і так будзе
мы рвем адзін аднаго
бо мы не тытаны, мы людзі

адзін на дваіх жэтон
апошні метро вагон
ноч чорная. ўдава белая
дон. дзінь. дон

*9 лютага 2014 г., м.н.с.к.*



## Дыялог

мяне чакае толькі бармэн,
цябе чакае толькі Бог
і больш ніхто. і гэта файна.
Ясенін спіць і спіць Ван Гог.
спіць Багдановіч пад абцасам
санэты — нахер, толькі рок.
нічога больш і гэта файна
адзін глыток адзін квіток

імёны ўсе маёй самоты
вагоны ўсе твайго жыцця
мой бармэн не пытае хто ты
твой бог напіша нам працяг
мой бармэн знаўца Пэр-Лашэзу
твой бог ідзе пад трыбунал
old fashioned life let's come together
whatever makes you happy now

мая сігара з маёй язвай
вядуць бясконцы дыялог
мяне чакае толькі бармэн,
цябе чакае толькі Бог

## Bro

Ты — бро
І я бро
Адзін Франклін
Адзін жэтончык на метро

*20 снежня 2014 г.*

## запавет крытыкам заўтрашняга дня

пацалуй мяне ў тэстамент, прыдурак!
напішы за мяне на цэгле
мае творы — не твой завулак
бяры матор і валі адсюль!

...і дзякуй Богу, што я ўжо ў пекле...

*14 жніўня 2012 г., м.н.с.к., розачка*



## 072* Брату

молты і блэнды,
гранты і брэнды,
і кожны таксіст — як Харон.
баксы і цэнты,
раёны і цэнтры,
жыццё гэта тое, што не ў аблом.

можна хадзіць па спіралі,
можна быць Будай вакзальным,
можна забыцца на адрас,
галоўнае — помніць, дзе дом.

ты мусіш сказаць, і я мушу,
што адкаркаваныя душы
мы і лічылі жыццём.

проста павер таму, хто прыйдзе сёння з вінам.

*16 студзеня 2014 г., м.н.с.к.*

## Змест


Толькі небам ... 3
Муза ... 4
Хто ты такая ... 6
паравіны ... 7
Paranoja.by ... 8
Мята ... 9
Удых — выдых ... 10
F5 ... 11
Ірме — 1 / Ірме — 3 ... 12
Ірме — 2 (пра жыццё, каханне і цягнікі) ... 13
Дзве / Trinity ... 14
Ці? / Людзі ... 15
Масква. Балкон / Сонца ... 16
Анёлы / Памер / Каляда ... 17
Новы год / Крыжы ... 18
Нашто / Люты ... 19
Будзьма Разам? / Слайды / Дэпра ... 20
hardcore narodowy / Ты ... 21
Зца / Кропка Г / Надзюха і латыш ... 22
Маёр / жорны / Download complete ... 23
А ты? / Час ... 24
Пра кветкі, фацэтаў і вартаўніка / */* ... 25
сантэхнічны дзэн / Гімн ... 26
Узяцце Парыжу ... 27
А. Г. ... 28
З(варот) пакалення А ў пакаленне Б ... 29
Наша альтанка ... 30
Homo aquarius ... 31
Развіднела ... 32
Прыярытэты ... 33
Крок ... 34
Здраднік ... 35
Паважаным быў ён чалавекам ... 36
Паэзія ... 37
Розы вуліца ... 38
Цана кампрамісу ... 40
Кроплі лістападу (памяці Олдзі) ... 41
Даруй мне, мама / Amour ... 42
Водарам ... 43
Як напоўніцца сэрца любоўю ... 44
Пошук (ctrl+F) ... 45





вальс ... 46
Бранзавею ... 47
Дабранач / Спі, Міхал ... 48
Калыханка ... 49
Сцены ... 50
Танцы ... 51
Сакэ (думы пра японку ў тралейбусе 29, што едзе ў бок Сэндайскага сквера) ... 52
свабода ... 53
Лёд ... 54
шлю паштоўку арыштанту ... 56
вось і мы цяпер як усе ... 57
Як нахіліцца крыж ... 58
Лічылка XXI ... 59
10 год, Беласток ... 60
O. D. ... 62
X. Y. Z. ... 63
Ай, Іван... ... 64
Новай Расеі ... 65
Крывавая поўня Крыму ... 66
Вера ... 67
...назаўтра была зіма ... 68
Праз туман ... 69
Святы Мікалай ... 70
Апошні цвік ... 71
Цытаты нашага цягніка ... 72
In thy heart ... 74
чЕ / Мир ... 75
10 правілаў хіпстэра ... 76
Soul Jah needs inn ... 78
масты ... 80
Змеяносец ... 81
ёсць рэчы ... 82
Званы (паводле песні Пятра Елфімава) ... 83
Рэха (на смерць Шэфа) ... 84
Легенда (паводле песні Fabiant) ... 86
новы статус ... 88
Снайпер (паводле Botanic Project) ... 89
Розы Люксембург, дом 4 ... 90
Дыялог ... 91
Bro / запавет крытыкам заўтрашняга дня ... 92
072* Брату ... 93

Пры афармленні першай старонкі вокладкі выкарыстаны малюнак Юліі Галавіной (ідэя Алеся Плоткі), на апошняй старонцы вокладкі змешчана фота Алеся Плоткі (аўтар Алена Бірукова)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Плотка** Алесь Аляксеевіч

БАЙСАН

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Н. Кучмель*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 10.01.2015. Фармат 60х84 1/16.
Папера афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 6,51. Ул.-выд. арк. 2,6.
Тыраж 300 экз. Зак. 9.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.